

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 36(421) 8 ВЕРАСНЯ 1999 г.

# 8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы

## Пікеты ТБМ

1 верасня 1999 года па ініцыятыве Сакратарыята ТБМ і з дазволу гарадскіх уладаў г. Менска ў Міхайлаўскім скверы, што непадалёк ад вакзала, адбыўся пікет з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю, прапаганды стварэння Нацыянальнага універсітэта, а таксама супраць перайменавання праспекта Ф. Скарыны. На пікеце было сабрана 283 подпісы за тое, каб імя Скарыны засталося ў назве галоўнага праспекта сталіцы, і 235 подпісаў - за адкрыццё Нацыянальнага універсітэта. У ліку падпісантаў сярод менчукоў, якіх пераважная большасць, грамадзяне Расеі, Украіны, розных рэгіёнаў Беларусі: з Краснадара, Казані, Жлобіна, Гомеля, Віцебска, Гародні, Воршы, Салігорска, Стоўбцаў і іншых.

Пікет у абарону мовы прайшоў у Жодзіне.

У Смалявічах улады пікет дазволілі, але потым самі ж яго сарвалі.

У Гомелі пікеты на 1 і 8 верасня забаронены пры дзікай матывацыі. Там заяўку падавала мясцовая арганізацыя БСДП (НГ). Уадказе Гарвыканкама сказана: "... для рассмотрения Ваших заявлений Вам необходимо представить в Гомельский Горисполком документы, подтверждающие, что БСДГ (НГ) прошла перерегистрацию и соответственно документ, подтверждающий статус городской организации БСДП (НГ)." Гомельскія чыноўнікі фактычна самачынна прыпынілі дзейнасць гарадской арганізацыі на час перарэгістрацыі.

**Сакратарыят ТБМ паведамляе, што мітынг ТБМ у Менску па просьбе гарвыканкама перанесены з 8-га верасня на 9-е.**

## Сустрэча ў Менгарвыканкаме

27 жніўня на працягу амаль гадзіны ў Менгарвыканкаме па просьбе Сакратарыята ТБМ адбылася сустрэча паміж кіраўніком Менгарвыканкама сп. Уладзімірам Ярмошыным і Старшынёй ТБМ. На сустрэчы прысутнічаў намеснік сп. Ярмошына сп.Васіль Гурын, які адказвае за культуру і адукацыю ў нашай сталіцы. Перад гэтай сустрэчай 9 ліпеня на імя У.В.Ярмошына быў накіраваны адкрыты ліст, прысвечаны нездавальняльнаму стану ўжывання дзяржаўнай беларускай мовы ў Менску. Пазней тэкст гэтага ліста быў надрукаваны на старонках "Нашага слова".

Таму пачнём па-парадку...

Спадары Ярмошын і Гурын зазначылі, што зварот ТБМ быў падрабязна разгледжаны і, зыходзячы з заўваг і прапаноў, якія ў ім утрымліваюцца, распрацавана і ўжо прынята некалькі пастаноў і распараджэнняў. Нам абяцалі неўзабаве іх перадаць для друку ў нашай газеце.

Кіраўнікі горада абяцалі звярнуцца да дырактароў буйнейшых заводаў Менска, каб яны паклапаціліся пра беларускія шыльды на сваіх прадпрыемствах. Таксама было сказана, што захаваецца старая практыка ўжывання толькі беларускамоўных шыльдаў з назвамі вуліц у нашай сталіцы. Таксама будуць выпраўлены і граматычныя памылкі на вулічных шыльдах. Сп. Ярмошын перадаў у ТБМ спіс усіх вуліц і завулкаў Менска з просьбаю праверыць дакладнасць іх беларускага напісання.

У бліжэйшы час на станцыі метро ў цэнтры горада з'явіцца назва "Плошча Незалежнасці". У кастрычніку павінна адбыцца сустрэча з прадстаўнікамі ТБМ з аднаго боку і ўсімі раённымі архітэктарамі дзевяці раёнаў Менска з другога. На гэтай нарадзе будуць разгледжаны пытанні аўдыёвізуальнага асяроддзя Менска.

З боку ТБМ было прапанавана ўладам забяспечыць вадзіцеляў тралейбусаў, аўтобусаў і трамваяў аўдыястужкамі з беларускімі запісамі назоваў прыпынкаў. Гэта пытанне было паабяцана разгледзець.

Потым сп. Ярмошыну было перададзена болей за 400 подпісаў грамадзян Беларусі, якія пратэстуюць супраць спробы перайменавання галоўнага праспекта Беларусі, які з 1990 года носіць імя Ф.Скарыны. Ён запэўніў, што ў Менгарвыканкаме спробы змены назвы вышэйзгаданага праспекта на іншую не было.

Была дасягнута дамова, што ў Менску, у бліжэйшы час у гістарычным цэнтры з'явяцца вуліцы імя св. Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага і Францішка Багушэвіча.

У мэтах пазбягання дыскрымінацыі беларускамоўнага насельніцтва сталіцы паабяцалі нашыя ўлады даваць пісьмовыя адказы на беларускай мове на запыты і звароты складзеныя па-беларуску. Вялася гаворка аб увядзенні пры Менгарвыканкаме пасады інспектара па культуры мовы, магчыма , на грамадскіх пачатках.

Асобнае месца пры перамовах заняло пытанне беларускамоўнай адукацыі ў Менску.

ТБМ прапанавала ўладам горада правесці атэстацыю дырэктараў менскіх сярэдніх школ на веданне імі дзяржаўнай беларускай мовы. Улады на гэтую прапанову далі згоду. Гарадскія ўлады выказаліся за захаванне ўсіх малакамплектных беларускамоўных класаў, дзе колькасць вучняў складае 10-15 чалавек. ТБМ выказала рашучы пратэст супроць таго, што ў СШ № 19 (імя Янкі Купалы), у СШ № 44 (імя Якуба Коласа) і ў гімназіі № 1 (імя Ф.Скарыны) зараз знішчаны ўсе беларускамоўныя класы і прапанавала пазбавіць гэтыя вучэбныя ўстановы імёнаў нашых славутых беларусаў. Улады не пагадзіліся з гэтым, але запэўнілі, што прыкладуць намаганні на аднаўленне беларускамоўнай адукацыі ў вышэйзгаданых установах.

З нашага боку была таксама адзначана, што ў Савецкім р-не г.Менска адсутнічаюць беларускамоўныя школы і амаль няма беларускіх класаў. Улады прапанавалі адкрыць у наступным годзе ў гэтым раёне беларускую школу дзесьці ў цэнтры, дзе ёсць добрае транспартнае забеспячэнне.

Такім чынам, аднаўлены працэс супрацоўніцтва з гарадскімі ўладамі ў сферы равіцця беларускай культуры, мовы і адукацыі, які быў гвалтоўна спынены ў 1995 годзе.

Я спадзяюся, што такія кантакты неўзабаве адбудуцца і ў іншых гарадах Беларусі, дзе актыўна дзейнічаюць структуры ТБМ.

*Старшыня ТБМ*
*Алег Трусаў,*
*Менск. 31 жніўня 1999 г.*

## Пікет у абарону роднай мовы

У нядзелю 22 жніўня з 11.00 да 13.00 ў Белаазёрску 4 сябры мясцовай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны правялі пікет у абарону беларускай мовы.

Белаазёрскі гарвыканкам даў дазвол на мерапрыемства, але перанёс месца правядзення з гарадской плошчы ў парк перад трыбунай стадыёна. Не гледзячы на гэта, даволі шмат людзей, што ішлі на кірмаш ці вярталіся назад, пабачылі пікетоўцаў з плакатамі: "Не знішчэнню беларускай мовы", "Хто змагаецца за родную мову, сваю культуру, самабытнасць, дзяржаву – той змагаецца за свой дабрабыт", "Не русіфікацыі", "Ад роднай мовы адракаюцца: раб, халоп, лакей, калабарант, здраднік, манкрут", "Беларусы абаронім сваю мову, абаронім сваю годнасць", "Беларусы, дзе наша мова?", "Беларус матай на вус". Многія абыякава праходзілі міма, а тыя, хто падыходзіў, атрымалі ўлётку са зваротам ТБМ да рабочых.

*Сярэжук Русецкі, Бярозаўскі р-н Берасцейскай вобл.*

## Павіншавалі, дапамаглі і павесялілі

Вядома як цяжка матэрыяльна падрыхтаваць дзіця да новага навучальнага года. Запамінальную дабрачынную акцыю для малазабяспечаных аўтазаводцаў правялі 28 жніўня свабодны прафсаюз металістаў Менскага аўтамабільнага завода, рэдакцыя газеты камітэта абароны правоў працоўных "Рабочий" і Таварыства беларускай мовы. Сто дваццаць сямей сабраліся ў завадскім Палацы культуры. Перад імі выступілі старшыня памянёнага прафсаюза Міхаіл Марыніч, старшыня ТБМ Алег Трусаў. Яны павіншавалі дзяцей і бацькоў з пачаткам школьнага навучальнага года, расказалі аб дзейнасці сваіх арганізацый, заклікалі берагчы і шанаваць Роднае слова нашай Бацькаўшчыны. На прыканцы сваёй размовы Алег Трусаў раздаў нумары газеты "Наша слова" і прапанаваў прысутных запоўніць і перадаць у штаб-кватэру ТБМ падпісныя лісты для афармлення бясплатнай падпіскі.

Кожнай сям'і быў уручаны пакунак, у які ўваходзілі школьныя прыналежнасці, кніга Язэпа Найдзюка і Івана Касяка "Беларусь учора і сяньня". А потым адбыўся канцэрт, які далі фальклорны калектыў "Горсціца" і вядомы гурт NRM.

*Мікола Лавіцкі.*

## Шукайце нас у дадатку № 5

**Для ўсіх, хто яшчэ не падпісаўся на "Наша слова" паведамляем, што ўсе звесткі пра нашую газету на поштах і пунктах падпіскі знаходзяцца ў Дадатку № 5 да асноўнага Каталога на 1-й старонцы.**

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 180000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# 8 верасня – дзень беларускай вайсковай славы. 485 гадоў Аршанскай бітвы.

Адной з датаў беларускай гісторыі ёсць 8 верасня – дзень беларускай вайсковай славы, які адзначаецца патрыётамі ўжо некалькі гадоў запар. Сягае ён сівой даўніны. У гэтым годзе адзначаецца 485-годдзе перамогі пад Оршай войскаў Вялікага княства Літоўскага над войскамі Маскоўскага княства. Беларускі Народны Фронт праводзіць традыцыйнае шэсце і мітынг "За дэмакратыю, незалежнасць, правы чалавека". У гэтым годзе святкаванне Дня вайсковай славы звязана з агульным становішчам у дзяржаве, неабходнасцю бараніць яе незалежнасць, супрацьдзеянне інтэграцыйным планам ліквідацыі суверэнітэту і падпарадкавання іншай дзяржаве – Расеі.

І ў ХУІ стагоддзі Беларуска-Літоўская дзяржава вяла амаль безупынную барацьбу, адстойваючы сваю незалежнасць. Яшчэ з канца ХУ ст. вялася серыя войнаў з Маскоўскім вялікім княствам, якое паступова ўзмацняла свой націск на Беларусь з мэтай далучэння беларускіх земель. Ішла чарговая вайна, якая цягнулася з 1512 да 1522 года, прыносячы новыя бедствы беларускаму народу. Маскоўскі вялікі князь Васіль ІІІ перш за ўсё намагаўся захапіць моцную крэпасць на ўсходзе Беларусі – Смаленск (дарэчы, яшчэ ў ХІХ ст. Смаленскую губерню царскі ўрад лічыў беларускай). У кампаніях 1512 і 1513 гадоў захапіць Смаленск не ўдалося. І толькі ў канцы ліпеня 1514 г., пасля аблогі і штурмаў, Смаленск капітуляваў. А ў гэты час пад Менскам канцэнтравалася армія пад камандаваннем гетмана найвышэйшага князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, дасведчанага палкаводца. У войску Астрожскага была ў асноўным конніца, былі і пяхотныя аддзелы, і артылерыя. Паводле дадзеных расейскага гісторыка М. К. Любаўскага, які спасылаўся на польскія архіўныя матэрыялы, польскіх жаўнераў, накіраваных каралём польскім і Вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам Старым, было не болей за 4 тысячы коннікаў. Астатнія не паспелі далучыцца да войска або засталіся з каралём у Барысаве, калі войска ўжо рушыла насустрач ворагу. Украінскія аддзелы трымалі абарону мяжы на поўдні ад крымскіх татараў, а літоўскія – на мяжы з Тэўтонскім ордэнам у Прусіі. Такім чынам, значную большасць войска Астрожскага складалі беларускія рыцары (баяры-шляхта). Асобнымі аддзеламі беларускага войска камандавалі Юрый Радзівіл і Іван Сапега.

Васіль ІІІ накіраваў у Беларусь 80-тысячную конніцу з баяраў і "людзей вайсковых" ( дваранаў і дзяцей баярскіх). На чале войска стаялі галоўныя ваяводы – баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца – продак князёў Галіцыных.

Гетман Астрожскі апярэдзіў праціўніка і смелым маршам у канцы жніўня і на пачатку верасня 1514 г. прайшоў на ўсход, разбіўшы перадавыя аддзелы маскоўскага войска на пераправах на Бярэзіне і на рэках Бобр і Друць. Маскоўскае войска адступала на левы бераг Дняпра і стала паміж Оршай і Дуброўнай на рацэ Крапіўне. Астрожскі таксама вырашыў даць бой на гэтым месцы. Ён лічыў, што адзін-паўтара кіламетра ад Дняпра, дзе ён паставіць сваё войска, дастаткова, каб разгарнуць свае сілы ў баявыя парадкі. Псіхалагічны момант – немагчымасць адступлення – таксама браўся ў разлік. Цяпер трэба было пераправіць сваё 30-тысячнае войска ля Оршы праз Днепр на вачах у маскоўскіх ваяводаў і іх воінаў.

7 верасня 1514 года князь Канстанцін Астроўскі правёў дэманстрацыйны манеўр. Недалёка ад Аршанскага замка ён пераправіў уброд на левы бераг Дняпра некалькі тысяч коннікаў. Але маскоўскія ваяводы бяздзейнічалі, чакаючы, пакуль не падыдзе ўсё беларускае войска, каб потым адным ударам амаль ўтрая большага маскоўскага войска знішчаюць яго цалкам.

Упачы з 7 на 8 верасня К. Астрожскі ў іншым месцы (вышэй па цячэнню) пераправіў усю сваю пяхоту і гарматы па двух пантонных мастах. Яны былі зроблены са шчыльна заканапачаных і звязаных паміж сабой бочак, а на іх пакладзены дошкі і насцілы з плеценага чароту, каб колы гарматаў не грукалі. У балоцістых мясцінах былі зроблены гаці з паваленых і звязаных дрэваў. Асноўная частка конніцы К. Астрожскага пераправілася праз Днепр па вузенькім бродзе ля Аршанскай крэпасці або ўплынь. Галоўны маскоўскі ваявода І.Чаляднін даведаўся пра гэтую акцыю са спазненнем. Іншыя ваяводы раілі яму напасці на войска К. Астрожскага і знішчыць яго падчас пераправы. Аднак Чаляднін адказаў ім, што пасля разгрому часткі беларускага войска застанецца другая частка, да якой могуць далучыцца іншыя войскі Вялікага княства Літоўскага, што было б небяспечным для маскоўскай арміі. Трэба было яго знішчыць цалкам, а потым спакойна заваёўваць усю Літву (г.зн. усё, што было на Захад ад Дняпра).

Бітва на полі на берагах Дняпра і Крапіўны, за пяць вёрст ад Оршы, адбылася 8 верасня 1514 г. У час яе беларускае войска выступала пад дзяржаўным чырвоным сцягам з сярэбранай выявай Пагоні, з аднаго боку, і выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам – з другога. На карціне " Бітва пад Оршай" (намалявана каля 1520 г.) відаць, што ў кожнага з беларускіх коннікаў была доўгая дзіда з белым сцяжком, удоўж якога па сярэдзіне праходзіла чырвоная палоска, якая бліжэй да дрэўца перакрыжоўвалася другой чырвонай палоскай. Гэта прадвеснік бела-чырвона-белага сцяга.

І. Чаляднін раніцай паставіў усё свае войска ў баявы парадак у тры расцягнутыя лініі. На флангах – конныя атрады, каб пад час бою яны зайшлі ў тыл ворагу. На перадзе стаяў полк перадавой варты. У цэнтры – маскоўскі вялікі полк, па фронце шырынёю 5 кіламетраў, на правым фланзе – полк правай рукі, на левым, каля вёскі Рукліна – полк левай рукі. За вялікім палком стаяў полк тылавой варты (рэзерва). Усе маскоўскія палкі былі конныя. Іван Андрэевіч Чаляднін расцягнуў свае сілы таму, што іх было ўтрая больш, ды месца для ўсіх не хапала на прасторы. Але адзіны сапраўдны кіраўнік у маскоўскім войску адсутнічаў. Фактычна другі галоўны ваявода, князь Міхаіл Булгакаў-Голіца яму не падпарадкаваўся.

Літоўска-беларускае войска і польскія конныя аддзелы занялі пазіцыі па абодвух баках яра, які ішоў ад вёскі Пугайлава да пераправы цераз Днепр. Яны сталі паводле свайго баявога звычаю. Наперадзе знаходзіліся два конныя палкі на чале з К.І.Астрожскім. Паміж імі стаяла пяхота са стрэльбамі і пішчалямі. У другой лініі былі яшчэ два конныя палкі на чале з Ю. Радзівілам. На правым і левым крыле гэтага войска стаялі па тры дапаможныя палкі лёгкай конніцы. На краі правага крыла паставілі пад аховай лесу ва ўкруцці ўсе гарматы і частку пяхоты з рушніцамі (пішчалямі, самапаламі).

А 9-й гадзіне раніцы ў пятніцу 8 верасня 1514 года "на рожество Пресвятыя Богородицы" войска Канстанціна Іванавіча Астрожскага было ўжо пастаўлена ў баявых парадках на полі бітвы.

Перад бітвай малебен за перамогу "над супастатам" адслужылі праваслаўныя святары: большасць воінаў і сам К.Астрожскі былі праваслаўнымі. Маліліся і ксяндзы, бо ў войску было нямала і католікаў. З вялікай прамовай па-беларуску выступіў К. Астрожскі, які нагадаў пра слаўныя баявыя традыцыі продкаў, заклікаў быць мужнымі, абараняць Бацькаўшчыну.

Разгарэлася жорсткая бітва. Атаку пачаў полк правай рукі маскоўскага войска на чале з Булгакавым-Голіцай. Свісталі стрэлы, чуўся звон шабляў, крыкі параненых і паміраючых. Беларускія рыцары збівалі ворага дзідамі і секлі шаблямі. Урэшце полк Булгакава быў зламаны, разбіты і пачаў атступаць.

Потым І.Чаляднін павёў свае палкі ў атаку: спачатку толькі полк левай рукі. А калі ў бітву ўступілі конныя аддзелы К. І. Астрожскага, і лёгкая конніца, маскоўскі ваявода кінуў усе свае сілы ў атаку, каб моцным ударам разграміць праціўніка. У пэўны момант яму падалося, што ён перамагае. Чаляднін убачыў, што конніца К.Астрожскага спыніла атакі і пачала адступаць усё хутчэй і хутчэй. Здавалася, што перамога маскоўскага войска забяспечана. Але недалёка ад лесу, што быў ля Дняпра , беларуская конніца раптам падзялілася на дзве часткі, якія зманеўравалі ў процілеглыя бакі. Уся бязладная маса маскоўскіх коннікаў апынулася перад гарматамі і пяхотай, якія падрыхтаваліся да моцнага залпу. Маскоўская конніца была расстраляна гэтым залпам і далейшымі стрэламі гармат і рушніц. Пры гэтым гарматы стралялі і па задніх радах. Пачалася паніка. Цяпер ужо ўцякалі цэнтр і абодва крылы маскоўскага войска. Адны ў лясы, другія – у балоты, а за імі гналіся і секлі іх беларускія коннікі. Як пісаў імператарскі дыпламат барон С.Герберштэйн у "Запісках пра Масковію": "Толькі ноч і лясы спынілі гэтае вынішчэнне". Шмат уцекачоў было забіта, частка патанула. Аўтар хронікі М.Бельскі распавядае, што бітва цягнулася аж да захаду сонца. Беларускія коннікі працягвалі нераследаванне ажно да васьмі літоўскіх міляў (г.зн.на 60 кіламетраў). Адны з беларускіх коннікаў вярнуліся назад апоўначы, другія нават на заўтра. З сабой яны вялі вялікую колькасць палонных.

І расейскія гісторыкі гавораць пра заканчэнне гэтай бітвы. Так, М. М. Карамзін у "Истории государства Российского" адзначыў, што войскі Вялікага княства Літоўскага "ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі". Другі расейскі гісторык С.М.Салаўёў адзначыў, што маскоўскае войска пацярпела страшэннае паражэнне: "Усе ваяводы трапілі ў палон, не кажучы ўжо аб вялікай колькасці забітых ратнікаў; рака Крапіўна (паміж Оршай і Дуброўнай) запоўнілася целамі масквіцянаў, якія пры ўцёках кідаліся ў яе са стромкіх берагоў". Гісторыкі ХУІ ст. далі лічбы стратаў расейскага войска. М. Стрыйкоўскі называе лічбу "больш за 40 тысяч, акрамя тых, што патанулі ў Крапіўне". М.Бельскі назваў таксама лічбу 40 тысяч. У палон трапілі галоўныя ваяводы Іван Чаляднін і Міхаіл Булгакаў-Голіца ды яшчэ 8 ваяводаў, сямнаццаць іншых ваеначальнікаў, дзве тысячы "дзяцей баярскіх" (катэгорыя маскоўскіх феадалаў) і больш за дзве тысячы воінаў, усяго больш за 5 тысяч чалавек (разам з вайсковымі слугамі).

Перамога ў Аршанскай бітве дазволіла адваяваць Дуброўну, Мсціслаў і Крычаў. Наступ на Беларусь быў спынены. Усходняя мяжа была замацавана на стагоддзі. Практычна яна захавалася да нашага часу.

Вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч наладзіў урачысты прыём у Вільні ў гонар князя К. І. Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. Канстанцін Астрожскі зрабіў у Вільні багатую фундацыю (уклад) царкве Свята-Духаўскага праваслаўнага манастыра ў падзяку Богу за дараваную яму перамогу. У памяць гэтай фундацыі звонку была прымацавана мармуровая дошка з надпісам па-беларуску. Каля 1520 г. невядомы мастак (хутчэй за ўсё удзельнік бітвы) намаляваў карціну пра бітву. Карціна лічыцца першай у батальным жывапісе Усходняй Еўропы.

Бітва пад Оршай пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Яе адначавалі ўсе тагачасныя, у тым ліку і рускія, летапісы і хронікі. У Германіі выйшаў спецыяльны друкаваны лісток, у якім апісвалася бітва. З таго часу захавалася беларуская народная песня пра перамогу над Крапіўнай "Ой, у нядзельку параненька ўзышло сонца хмарненька…"

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучэльнях дарэвалюцыйнай Расеі. Як прыклад вайсковага таленту К. Астрожскага яна прыведзена ў Расейскай ваеннай энцыклапедыі (1914г.).

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. з'яўляецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі, яна ўпісваецца ў агульны шэраг гераічных перамог беларускага войска на працягу некалькіх стагоддзяў пад час існавання самастойнай і незалежнай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы). Беларусы ганарацца славай сваіх продкаў. Галоўнай мэтай усіх, хто любіць сваю краіну і свой народ, з'яўляецца захаванне і абарона незалежнасці Беларусі ад захопніцкіх памкненняў імперыялістычных колаў Расіі і капітулянства цяперашняга прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі. Гадавіна Аршанскай бітвы, памяць пра вайсковую славу нашых продкаў хай будуць маральнай падтрымкай патрыётаў Беларусі ў гэты час.

*Анатоль Грыцкевіч, прафесар, доктар гістарычных навук.*

## НЕСАНКЦЫЯВАНЫ ПІКЕТ ЗБМ "ЕЎРАПЕЙСКІ ШЛЯХ"

26 жніўня 1999 г. а 15.00 Згуртаванне беларускай моладзі "Еўрапейскі шлях" вымушана было правесці несанкцыянаванае пікетаванне будынка Міністэрства культуры (пр-т Машэрава, 11) з мэтаю прыцягнуць увагу грамадзкасці і ўлады да стану, у якім апынуліся помнікі беларускага горадабудаўніцтва, архітэктуры і археалогіі. Падставай да такіх дзеянняў паслужыла тое, што з 7-мі пададзеных заявак на пікетаванні месцаў разбурэння помнікаў, а таксама адпаведных дзяржаўных установаў Менгарвыканкам, ня даўшы ніякіх тлумачэнняў, не дазволіў ніводнай. Відавочная тэндэнцыя ўладаў на замоўчванне праблемы выратавання нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны, стварэнне ілюзіяў, што такой праблемы ўвогуле не існуе.'

Роўна а 15-й гадзіне былі разгорнуты сем плакатаў з лозунгамі: "СПЫНІЦЕ РАЗБУРЭНЬНЕ ГІСТАРЫЧНАГА ЦЭНТРУ МЕНСКУ !", " сп. БУБНОЎСКІ ЯКОМУ ПОМНІКУ ВЫ ВЫНЕСЕЦЕ НАСТУПНЫ СЬМЯРОТНЫ ПРЫСУД !", "ЗЬНІШЧАЮЦЦА АПОШНІЯ ПОМНІКІ Ў НАШЫМ ГОРАДЗЕ" ды інш. З плакатамі людзі прастаялі не болей за дзве хвіліны. Адразу падбеглі сем міліцыянтаў у форме і столькі ж у цывільным (адзін быў з відэакамерай і ўсіх здымаў) і пачалі вырываць плакаты з рук пікетоўшчыкаў, якіх міліцыянты чакалі ўжо гадзіну. Усяго ў пікеце ўдзельнічала каля 25-ці чалавек. Інфармацыя па затрыманых удакладняецца.

## ЗАЯВА ЗБМ "ЕЎРАПЕЙСКІ ШЛЯХ"

Сённяшні стан шматлікіх помнікаў архітэктуры і археалогіі можна характарызаваць, як катастрафічны. У выніку бескантрольнай дзейнасці карыстальнікаў і пры бяздзейнасці Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры РБ (старшыня сп.Бубноўскі Д.С.) многія помнікі разбураны ці сур'ёзна пашкоджаны (Вежа Малога замка і археалягічны пласт Гандлёвага пляцу ў Наваградку, Кальвінскі збор у Заслаўі, Дабравешчанская царква ў Віцебску ды інш.). Цалкам зменена архітэктурнае аблічча шматлікіх помнікаў драўлянага дойлідства (у першую чаргу цэркваў).

Асобна стаіць праблема захавання і рэстаўрацыі гістарычнага цэнтра Менска, дзе са згоды Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны адбываецца разбурэнне аўтэнтычных старажытных будынкаў ХУІІІ-пач.ХХст.ст. і пабудова на іх месцы прымітыўных муляжоў, якія не маюць ніякай гістарычнай і мастацкай каштоўнасці. Сучаснай забудовай знішчаецца гістарычны ландшафт і археалагічны пласт Ракаўскага передмесця, якое ўяўляе значную горадабудаўнічую і мастацкую каштоўнасць. Існуе рэальная небяспека ператварэння Верхняга горада з гісторыка-культурнага цэнтра сталіцы ў закрытую для менчукоў зону.

Мы з болем адзначаем катастрафічнасць сітуацыі і выказваем сваё абурэнне поўнай абыякавасцю ўладаў да гэтай праблемы. Вельмі спадзяёмся на актыўны ўдзел грамадзкасці і СМІ ў ратаванні нашай нацыянальнай спадчыны.

*Прэс-служба ЗБМ "Еўрапейскі шлях".*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012








# Што дае нам расейская “Бурёнка”

Па вуліцы Я.Коласа не так даўно стаў працаваць фірмовы магазін ААТ (адкрытае акцыянернае таварыства) “Смаргонскія малочныя прадукты” пад назвай расейскай каровы “Бурёнка” упрыгожаны дзесяццю партрэтамі. “Бурёнки” 8 партрэтаў на знешняй сцяне ад вуліцы і два партрэты “Бурёнки” унутры магазіна. Вядома, усе надпісы на гэтым і ў гэтым “кароўніку” зроблены на расейскай мове, каб дагадзіць расейскай карове “Бурёнке”.

Калі б нашы каровы ўмелі чытаць па-расейску, то напэўна моцна пакрыўдзіліся бы на “Бурёнку”, чым , маўляў, яна лепшая за беларускую “Рагулю”. Як вядома расейская “Бурёнка” не дае больш малочнай прадукцыі, чым беларуская “Рагуля”, тады чаму ўладальнікі магазіна назвалі магазін клічкай расейскай каровы “Бурёнка”, а не нашай каровы “Рагуля”. У левым крыле будынка з расейскай назвай “Бурёнка” Смаргонскі хлебазавод адкрыў свой фірмовы магазін пад назвай “Каравай” з надпісам “Сморгонский хлебозавод” на расейскай мове, каб не пакрыўдзіць суседку “Бурёнку”, мне здаецца, што “Бурёнке” было б больш да спадобы, каб побач быў магазін не з назвай “Каравай”, не вельмі зразумелай для “Бурёнки”, а з назвай “Фураж”. Адміністрацыя хлебазавода тут нямнога зняважыла расейскую карову “Бурёнка”, напісаўшы побач “Каравай”, а не “Фураж” ды і асцярожна, баючыся расейскай каровы зрабіла надпісы на беларускай мове (толькі ўнутры магазіна, каб не бачыла “Бурёнка” сваволля суседзяў).

Насупраць, на другім баку вуліцы Я.Коласа знаходзяцца прадпрыемствы “Нівы-ЗАС” (кіраўнік малога дзяржаўнага прадпрыемства “Ніва-ЗАС” Мар’ян Дэмбоўскі).

Радуе вока назвы кафэ “Купалінка” і магазін “Пралеска” прадпрыемства “Ніва-ЗАС”. Назвы беларускія і напісаны па-беларуску. Але і тут адміністрацыя “Нівы-ЗАС” спалохалася, што беларусы не прачытаюць надпісы на роднай мове, а вышэйшыя ўлады яшчэ змогуць абвініць іх у беларускім нацыяналізме і для адвядзення пакарання за праяўленне “нацыяналізму” пад назвамі кафэ “Купалінка” і магазіна “Пралеска” вялікімі літарамі па-расейску напісалі “Мясо” і “Кулинария”. Тым больш, што побач з імі магазіны знаходзяцца толькі з расейскімі надпісамі, і каб не паказацца праціўнікамі русіфікацыі Беларусі, не стаць ворагам каланізацыі Беларусі Расеяй і не адбіць жаданне югаслаўскіх сербаў далучыцца да ствараемага “Могучего и непобедимого” Саюза славянскіх народаў, з адзіным “великим и могучим русским языком”, адміністрацыя ўпамянутай МДП “Ніва-ЗАС” ужо выправіла свае палітычныя памылкі, і пры адкрыцці ўжо новага прадуктовага магазіна ўсе надпісы (знешнія і ўнутраныя) зрабіла на замежнай расейскай мове – мове старэйшых братоў – славян. Тым больш, што новы магазін адкрыты ў цэнтры горада па вул. Савецкай, па якой магчыма будзе ехаць сам Лукашэнка ў госці да В. Адамкуса, калі будзе мець такія запрашэнні. Гэта па дарозе з Менска ў Вільню і не вельмі далёка.

Смаргонскія ўлады г.Смаргонь адносяць да расейскіх гарадоў, ужываюць і карыстаюцца звычайна толькі чужаземнай мовай – расейскай, каб паказаць, што яны гатовы да закабалення Беларусі Расеяй і супраць нічога не маюць.

Толькі адзін мясцовы мастак Валянцін Варанішча, калі афармляе якінебудзь гандлёвы дом ці адміністрацыйны будынак, то прынцыпова ўсе надпісы робіць на беларускай мове, у супраціўным выпадку адмаўляецца ад выканання работ.

*Ч.Хвайніцкі, г. Смаргонь.*

## ЗА ПЕРЫЯД З КАНЦА 1998 ГОДА Ў КРАІНЕ ЗАРЭГІСТРАВАНА 2 НОВЫЯ БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАННІ І 19 — РАСЕЙСКАМОЎНЫХ

Менск, 21 жніўня. За перыяд з канца 1998 года ў краіне зарэгістравана 2 новыя беларускамоўныя перыядычныя выданні і 19 – расейскамоўных. Згодна са звесткамі Дзяржаўнага камітэта па друку (па стану на 1 жніўня 1999 года), у краіне выдаецца 118 беларускамоўных і 314 рускамоўных перыядычных выданняў. Усяго на 1 жніўня зарэгістравана 1.055 выданняў — на 54 больш, чым напрыканцы 1998 года. Прычым, за гэты час у Беларусі з’явілася 25 новых газет, 28 часопісаў і 1 бюлетэнь. Калі напрыканцы 1998 года было зарэгістравана 496 выданняў, якія выкарыстоўваюць у тым ліку беларускую мову, і 530 выданняў, якія, сярод іншых, прымяняюць рускую мову, то цяпер у Беларусі, адпаведна, дзейнічаюць 520 і 557 падобных выданняў. Колькасць выданняў, выходзячых у краіне на замежных мовах, скарацілася з 13 да 11.

Часцей за ўсё рэдакцыі перыядычных выданняў, зарэгістраваныя Дзяржкамдрукам, месцяцца ў Менску (688). Далей ідуць Гомельская (90). Віцебская (69), Гарадзенская (64), Магілёўская (60), Берасцейская (46) і Менская (38) вобласці.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# Вынікі перарэгістрацыі арганізацый і суполак Т Б М імя Францішка Скарыны

| №№ п/п | Назва арганізацыі | Кіраўнік арганізацыі | Тэлефоны | Паштовы адрас | Дата перарэг-цыі | Колькасць суполак | Колькасць сяброў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **7. Горад Менск (навучальныя і навуковыя ўстановы)** | | | | | | |
| 1. | Менская гарадская арганізацыя ТБМ | Саламонаў Аляксей Андрэевіч | х.251-61-01 сл.277-96-61 | г.Менск, вул.Адаеўскага, 30-94 | 14.05.99 | 47+46=93 | 902+683 = 1585 |
| | | Намеснік старшыні Савіцкі Мікалай Іванавіч | х.221-71-50 | 220028, г.Менск, вул.Маякоўскага, 152-80 | | | |
| | | Сакратар Анісім Алена Мікалаеўна | х.270-76-53 сл.284-02-74 | 220116, г.Менск, пр.газеты Ізвесція, 15-64 | | | |
| 2. | Акадэмічная суполка інстытута гісторыі НАН РБ | Астрога Віктар Аляксанд-віч | х.272-36-60 сл.284-16-31 | 220117, г.Менск, пр.газеты Ізвесція, 59-2-24 | 14.05.99 | 1 | 21 |
| 3. | Акадэмічная суполка інстытута мовазнаўства НАН РБ | Астрэйка Вера Дзмітрыеўна | х.236-16-17 сл. 284-11-92 | 220034, г.Менск, вул.Захарава, 69-38 | 14.05.99 | 1 | 34 |
| 4. | Акадэмічная суполка інстытута тэхнічнай кібернэтыкі НАН РБ | Раковіч А.Г. | | | 14.05.99 | 1 | 20 |
| 5. | Акадэмічная суполка інстытута эксперыментальнай батанікі НАН РБ | Сак М.М. | | | 14.05.99 | 1 | 14 |
| 6. | Арганізацыя ТБМ Менскага дзярж. пед.каледжа №1 (Фрунзенскі р-н) | Чэчат Аляксандр Віктаравіч | х.258-75-18 | 220017, г.Менск, вул.Прытыцкага, 112 –308 | 14.05.99 | 7 | 172 |
| 7. | Арганізацыя ТБМ БДПУ імя М.Танка | Лугоўскі Аляксандр Іванавіч | сл.226-44-41 х.274-82-91 | 220098, г.Менск, вул.Ясеніна, 123-179 | 14.05.99 | 9 | 250 |
| 8. | Арганізацыя ТБМ БДТУ | Меляшкевіч Яраслаў Генрых. | сл.227-62-41 | | 14.05.99 | 12 | 201 |
| 9. | Суполка МДЛУ | Ермаловіч Васіль Васільевіч | х.231-25-60 | 220005, г.Менск, вул.Захарава, 2 | 14.05.99 | 1 | 16 |
| 10. | Арганізацыя ТБМ гістфака БДУ | Макарэвіч Віталь Сяргеевіч | х.247-45-87 | г.Менск, вул.Якубава, 32-423 | 14.05.99 | 4 | 41 |
| 11. | Арганізацыя ТБМ Бел. ун. культуры | Дзіцэвіч Людміла Мікала-ўна | х.268-14-35 | | 14.05.99 | 8 | 103 |
| 12. | Суполка ТБМ БДПА | Шастаковіч Анатоль Васіль. | | 220088, г.Менск, вул.Пуліхава, 5-42 | 14.05.99 | 1 | 10 |
| 13. | Суполка гімназіі № 4 “Берагіня” | Баранава Тамара Іванаўна | х.258-83-18 | г.Менск, вул.Лабанка, 50-206 | 14.05.99 | 1 | 20 |
| | **8. г. Менск (рэгіянальныя арганізацыі)** | | | | | | |
| 1. | Фрунзенскага раёна суполка | Бекіш Віктар Андрэевіч | х.255-64-81 | 220121, г.Менск, вул.П.Глебкі, 28-44 | 14.05.99 | 1 | 19 |
| 2. | Арганізацыя ТБМ Савецкага раёна | Дзям’яненка Юлія Яўгенаўна | х.231-40-80 | 220040, г.Менск, вул.Усходняя, 38-91 | 14.05.99 | 15 | 129 |
| 3. | Арганізацыя ТБМ Цэнтральнага раёна | Мухіна Леанарда Станіс-ўна | х.237-56-12 сл.236-61-94 | г.Менск, Смаргаўскі зав., д.28 | 14.05.99 | 7 | 117 |
| 4. | Арганізацыя ТБМ Заводскага раёна | Лавіцкі Мікалай Емельянавіч | х.224-69-13 | г.Менск, вул.Альтэлерыстаў, 9-62 | 14.05.99 | 3 (1) | 58 (32) |
| | Суполка “Беларусь” МТЗ | Латушкін Уладзімір Мікал. | х.248-49-65 | г.Менск, пр-т Ракасоўскага 77-140 | | (1) | (32) |
| 5. | Арганізацыя ТБМ Ленінскага раёна | Урбан Мікола Аляксандравіч | х.238-86-85 сл.221-24-04 | 220095, г.Менск, вул.Пляханава, 68/1-127 | 14.05.99 | 7 | 62 |
| 6. | Арганізацыя ТБМ Першамайскага р-на | Шагулін Алег Іванавіч | х.266-51-15 | 220049,г.Менск, вул.Валгаградская, 27а-10 | 14.05.99 | 4 | 77 |
| 7. | Маскоўскага р-на “Койданаўская”суп. | Янычкін Ігар Іванавіч | х.274-62-68 с.283-02-82 | 220098, г.Менск, вул.Слабадская, 45-47 | 27.06.99 | 1 | 16 |
| 8. | Арганізацыя ТБМ Партызанскага р-на | Вольскі Артур Вітальевіч | х.262-28-90 | 220113, г.Менск, Лагойскі тракт 1-12 | 14.05.99 | 4 | 75 |
| 9. | Суполка МГА “Хлоя” | Дзяцькоў Кастусь Ігаравіч | х.231-53-84 | 220040 г.Менск, вул. Некрасава, 17 - 30 | 14.05.99 | 1 | 4 |
| 10. | Суполкі Кастрычніцкага раёна | Грыб Ян Янавіч | х.278-00-92 | 220115 г.Менск, зав.Каржанеўскага, 4 –77 | 27.06.99 | 2 | 13 |
| 11. | Суполка БВТ “Хата” | Санько Валерый Аляксеевіч | х.262-38-86 сл.236-66-40 | г.Менск пр. Скарыны, 31 | 14.05.99 | 1 | 11 |
| 12. | Суполка “Спадчына клуб” | Белы Анатоль Яфімавіч | х. 235-66-08 | г.Менск, вул.Уральская, 16-9 | 27.06.99 | 1 | 30 |
| 13. | Суполка газеты “Народная воля” | Кліменценка Святлана Ульянаўна | х.261-80-98 сл.229-20-81 | 220131 г.Менск, вул.Мірашнічэнкі, 47-150 | 27.06.99 | 1 | 20 |
| 14. | Суполка “Спаемства” | Язерскі Сяргей Андрэевіч | 251-72-77 | 220015 г.Менск, вул.Я.Маўра, 26-18 | 14.05.99 | 1 | 17 |
| 15. | Суполка аддзела навукі адукацыі і культуры МФ | Маковік Наталля | х.242-48-34 | г.Менск, вул. Ілінская 33-85 | 14.05.99 | 1 | 12 |
| 16. | Суполка “Асацыяцыя беларускіх выданняў” | Цумараў Яўген Аляксан-віч | х. 215-82-13 | 220022 г.Менск, вул.Сухараўская 17-7 | 14.05.99 | 1 | 11 |
| 17. | Суполка ТБМ Беларускай нацыянальнай партыі | Бураўкін Аляксей | | | 14.05.99 | 1 | 12 |

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







*Як гэта было* *Да 60-годдзя ўз'яднання Беларусі*

# Патаемныя перамовы жніўня 1939 года

**Рыбентроп** *(імперскі міністр замежных спраў Германіі)* **Шуленбургу** *(германскаму паслу ў Маскве).* ***Тэлеграма 3.08.1939г. Вельмі тэрмінова. Асабіста!***

"Я прыняў рускага паверанага ... Я сказаў, што на Балтыцы нам абодвум хопіць месца і што рускія інтарэсы там ні ў якім выпадку не прыйдуць ў сутыкненне з нашымі... У выпадку правакацыі з боку Польшчы мы адрэгулюем пытанне з Польшчай на працягу тыдня... я зрабіў тонкі намёк на магчымасць заключэння з Расеяй пагаднення аб лёсе Польшчы... Я вёў гутарку, не паказваючы, што мы спяшаемся".

*14 жніўня Гітлер правёў нараду з генераламі ў Оберзальцбургу. Вызначана дата нападу на Польшчу — 26 жніўня.*

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма. 14.08.1939 г. Вельмі тэрмінова. Асабіста паслу.***

"Я прашу Вас асабіста звязацца з Молатавым і перадаць яму наступнае: ... Імперскі міністр замежных спраў фон Рыбентроп гатовы прыбыць у Маскву з кароткачасовым візітам, каб ад імя Фюрэра выказаць погляды Фюрэра Сталіну"...

**Шуленбург у міністэрства замежных спраў (МЗС) Германіі.** ***Тэлеграма. Спешна. Сакрэтна! 15.08.1939 г.***

"... Молатаў з найвялікшай цікавасцю выслухаў інфармацыю... яго цікавіць пытанне аб тым, як германская кіраўніцтва адносіцца да ідэі заключэння Пакта аб ненападзе з Савецкім Саюзам"...

*15 жніўня ўзброеныя сілы Германіі пачалі прыводзіцца ў стан поўнай баявой гатоўнасці для нанясення ўдару па Польшчы.*

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма. 16.08.1939 г. Тэрмінова. Асабіста.***

" ... Германія гатова заключыць з Савецкім Саюзам Пакт ад ненападзе ... Фюрэр лічыць, што ... пажадана агульнае і хуткае высвятленне германа-рускіх адносін і ўзаемнае ўрэгуляванне актуальных пытанняў. Імперскі міністр замежных спраў..., пачынаючы з пятніцы 18 жніўня ... гатовы ў любы час прыбыць самалётам у Маскву"...

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 18.08.1939 г. Па-за чаргой. Сакрэтна. Тэрмінова.***

"... 3. Адносна чаканага візіту ў Маскву Імперскага Міністра замежных спраў Молатаў заявіў, што савецкае кіраўніцтва вельмі задаволена гэтай прапановай, паколькі накіраванне такога выдатнага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча падкрэслівае шчырасць памкненняў германскага пасольства... Савецкаму Кіраўніцтву не падабаецца галоснасць, што суправаджае падобны візіт. Яно жадае, каб практычная праца была закончана без падобнай цэрымоніі"...

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма. 18.08.1939 г. Тэрмінова. Асабіста.***

" ... Першая стадыя... заканчэнне перамоваў аб новым германа-расейскім эканамічным пагадненні была завершана сёння... Мы просім аб неадкладным адказе на прапанову аб маім тэрміновым выездзе ў Маскву... Я таксама маю права падпісаць спецыяльны пратакол, які рэгулюе зацікаўленасць абодвух бакоў у тых ці іншых пытаннях знешняй палітыкі... Падобнае ўрэгуляванне, аднак, што здаецца нам надзвычай важным, магчыма толькі ў момант вуснай гутаркі... магчымы хуткі пачатак адкрытага германа-польскага сутыкнення... Мы крайне зацікаўлены ў тым, каб мой візіт у Маскву адбыўся неадкладна."

**Шуленбург у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. 19.08.1939 г. Па-за чаргой. Сакрэтна.***

"Молатаў заявіў, што калі аб заключэнні эканамічнага пагаднення будзе аб'яўлена заўтра, Імперскі Міністр замежных спраў можа прыбыць у Маскву 26 ці 27 жніўня.

***Газета "Правда" 21 жніўня 1939 г.***

(ТАСС) 19 жніўня пасля працяглых перамоў, што паспяхова закончыліся, у Берліне падпісана Гандлёва-Крэдытнае Пагадненне паміж СССР і Германіяй. Гандлёва-Крэдытнае Пагадненне прадугледжвае выдачу Германіяй СССР крэдыту ў памеры 200 мільёнаў германскіх марак тэрмінам на 7 гадоў з 5% для закупкі германскіх тавараў на працягу двух гадоў... Пагадненне прадугледжвае таксама пастаўку тавараў з боку СССР Германіі ў той жа тэрмін... на суму 180 мільёнаў германскіх марак".

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма. 20.08.1939 г. Тэрмінова! Асабіста.***

"Фюрэр упаўнамочвае Вас тэрмінова з'явіцца да Молатава і ўручыць яму наступную тэлеграму Фюрэра для Сталіна.

*Сталіну, Масква.*

*1. Я шчыра вітаю падпісанне новага германа-савецкага гандлёвага пагаднення, як першую ступень перабудовы германа-савецкіх адносін.*

*2. Заключэнне пакта аб ненападзе з Савецкім Саюзам азначае для мяне вызначэнне доўгатэрміновай палітыкі Германіі...*

*3. Я прымаю праект пакта аб ненападзе,... і лічу крайне неабходным як мага больш хуткае высвятленне звязаных з гэтым пытанняў.*

*4. Я ўпэнены, што датковы пратакол, пажаданы савецкім кіраўніцтвам, можа быць выпрацаваны ў магчыма кароткі час, калі адказны дзяржаўны дзеяч Германіі зможа асабіста прыбыць у Маскву для перамоваў.*

*5. Напружанасць паміж Германіяй і Польшчай стала невыноснай. Германія ў любым выпадку мае намер абараняць інтарэс дзяржавы ўсімі сродкамі, што маюцца ў яе распараджэнні.*

*6. ... прапаную прыняць майго Міністра замежных спраў у аўторак, 22 жніўня, сама пазней у сераду, 23 жніўня. Імперскі міністр замежных спраў мае поўныя паўнамоцтвы на складанне і падпісанне як пакта аб ненападзе, так і пратакола...*

*Я буду рады атрымаць Ваш хуткі адказ. Адольф Гітлер".*

**Рыбентроп Шуленбургу.** ***Тэлеграма. 21.08.1939 г.***

"Калі ласка, зрабіце ўсё, што можаце, каб паездка ажыццявілася".

**Шуленбург у МЗС Германіі** ***Тэлеграма. 21.08.1939 г. Па-за чаргой. Сакрэтна. Тэрмінова.***

"...Я спрабаваў усімі спосабамі, якія толькі былі ў маім распараджэнні, даць ясна зразумець спадару Молатаву, што тэрміновы візіт Імперскага Міністра замежных спраў неабходны ў інтарэсах абодвух бакоў. Я закончыў просьбай аб тым, каб пры любых абставінах адказ быў дадзены мне сёння"...

**Шуленбург у МЗС Германіі** ***Тэлеграма. 21.08.1939 г. Па-за чаргі. Тэрмінова. Сакрэтна.***

" У 17 гадзін Молатаў уручыў мне адказ Сталіна на пасланне Фюрэра. ... Молатаў заявіў, што Савецкае кіраўніцтва хоча, каб сама пазней заўтра раніцай у Маскве было апублікавана кароткае дзелавое камюніке аб меркаваным заключэнні пакта аб ненападзе і "чаканым" прыбыцці Імперскага Міністра замежных спраў. Молатаў просіць згоды Германіі на гэта да паўночы. Раю згадзіцца, паколькі савецкае кіраўніцтва ўжо зарэзервавала публікацыю".

**Шуленбург у МІС Германіі** ***Тэлеграма. 21.08.1939 г. Па-за чаргой. Тэрмінова. Сакрэтна.***

"Даслоўны тэкст адказу Сталіна: 21 жніўня 1939 года Канцлеру Германскай дзяржавы спадару А. Гітлеру. Я дзякую Вам за ліст. Я спадзяюся, што савецка-германскі пакт аб ненападзе стане вырашальным паваротным пунктам у паляпшэнні палітычных адносін паміж нашымі краінамі.

Народам нашых краін неабходны мірныя адносіны адзін да другога. Згода германскага кіраўніцтва на заключэнне пакта аб ненападзе створыць падмурак для ліквідацыі палітычнай напружанасці і для ўстанаўлення міру і супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі. Савецкае кіраўніцтва ўпаўнаважыла мяне інфармаваць Вас, што яно згодна на прыбыццё ў Маскву спадара Рыбентропа 23 жніўня. І.Сталін".

***Газета "Правда" 22 жніўня 1939 г.***

(ТАСС) Пасля заключэння савецка-германскага гандлёва-крэдытнага пагаднення паўстала пытанне аб паляпшэнні палітычных адносін паміж Германіяй і СССР. Адбыўшыся па гэтаму пытанню абмен думак паміж кіраўніцтвамі Германіі і СССР устанавіў наяўнасць жадання абодвух бакоў зняць напружанасць у палітычных адносінах паміж імі, ухіліць пагрозу вайны і заключыць пакт аб ненападзе. У сувязі з гэтым чакаецца на днях прыезд германскага міністра замежных спраў с. фон Рыбентропа ў Маскву для адпаведных перамоў".

*22 жніўня ў палудзень Гітлер склікаў вялікую нараду ўсіх сваіх камандуючых у Оберзальцбергу.* **"Мы павінны дзейнічаць з беспрыкладнай жорсткасцю і рашучасцю. Мэтай з'яўляецца не ўстанаўленне новых і лепшых межаў, а знішчэнне ворага, у першую чаргу Польшчы"** *Зацверджана дата нападу на Польшчу – 26 жніўня. У той жа дзень пасля поўдня прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Чэмберлен склікаў паседжанне рады міністраў у сувязі з распаўсюджанымі паведамленнямі аб маючым адбыцца заключэнні пакта паміж Германіяй і Расіяй. У камюніке паведамлялася, што ўрад дасць запыт парламенту на надзвычайныя паўнамоцтвы і што ён санкцыяваў прыняцце адпаведных мер перасцярогі. 23 жніўня сабралася Вярхоўная Рада нацыянальнай абароны Францыі. Усе згадзіліся, што Францыя павінна будзе выканаць свае абавязацельствы ў адносінах да палякаў.*

**Фон Рыбентроп у МЗС Германіі.** ***Тэлеграма. № 204. 23.08.1939 г. Па-за чаргой. Тэрмінова!***

"Калі ласка, тэрмінова паведаміце Фюрэру, што першая трохгадзінная сустрэча са Сталіным і Молатавым толькі што закончылася. У час абмеркавання, якое праходзіла выключна ў нашым духу, зверх таго выявілася, што апошняй перашкодай да канчатковага рашэння з'яўляецца патрабаванне рускіх да нас прызнаць парты Лібава (Ліепая) і Віндава (Вентспілс) уваходзячымі ў іх сферу ўплыву. Я буду ўдзячны за пацвярджанне да 20 гадзін... згоды Фюрэра. Падпісанне сакрэтнага пратакола аб узаемным размежаванні сфер уплыву ва ўсёй усходняй зоне, на які я даў сваю прынцыповую згоду, абмяркоўваецца".

**Канцылярыя міністра – фон Рыбентропу.** ***Тэлефанаграма. 23.08.1939 г.***

"На вашу тэлеграму № 204. Адказ: так, згодны".

***Газета "Праўда" 24 жніўня 1939 года.***

"23 жніўня ў 3 гадзіны 30 хвілін адбылася першая гутарка старшыні Саўнаркама і Наркамзамсправа СССР тав. Молатава з міністрам замежных спраў Германіі с. фон Рыбентропам па пытанні аб заключэнні пакта аб ненападзе. Гутарка праходзіла ў прысутнасці Сталіна і германскага пасла с. Шуленбурга і працягвалася каля 3-х гадзін. Пасля перапынку ў 10 гадзін вечара гутарка была адноўлена і закончылася падпісаннем дамовы аб ненападзе..."

*Дамова складалася з 7 артыкулаў, уступіла ў сілу неадкладна пасля падпісання, заключана была на 10 гадоў, падпісана Молатавым і фон Рыбентропам. У першым артыкуле гаворыцца:* "Абодва дамоўныя бакі абавязаны ўстрымацца ад усялякага гвалту, ад усялякага агрэсіўнага дзеяння і ўсякага нападу ў адносінах адзін да другога, як асобна, так і сумесна з іншымі дзяржавамі".

***Сакрэтны дадатковы пратакол. Вядомы як пакт Молатава – Рыбентропа.***

"З нагоды падпісання Пакта аб ненападзе... прадстаўнікі абодвух бакоў абмеркавалі ў строга канфідэнцыяльных гутарках пытанне аб размежаванні іх сфер уплыву ва Усходняй Еўропе. Гэтыя гутаркі прывялі да пагаднення ў наступным:

1.У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, прыналежных прыбалтыйскім дзяржавам (Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літве), паўночная мяжа Літвы будзе з'яўляцца рысай, што раздзяляе сферы ўлады Германіі і СССР. У гэтай сувязі зацікаўленасць Літвы ў раёне Вільні прызнана абодвума Бакамі. 2. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, прыналежных Польскай дзяржаве, сферы ўплыву Германіі і СССР будуць размежаваны прыблізна па лініі рэк Нараў, Вісла і Сан. Пытанне ў тым, ці пажадана ў інтарэсах абодвух Бакоў захаванне незалежнасці Польскай дзяржавы, і аб межах такой дзяржавы будзе канчаткова вырашана толькі ходам будучых палітычных падзей??

. У любым выпадку абодва Ўрады вырашаюць гэта пытанне шляхам сяброўскай згоды. 3. Датычна Паўднёва-Усходняй Еўропы Савецкі Бок ўказаў на сваю зацікаўленасць у Бесарабіі. Германскі Бок дакладна заявіў аб поўнай палітычнай незацікаўленасці ў гэтых тэрыторыях. 4. Гэты пратакол разглядаецца абодвума бакамі як строга сакрэтны. Масква. 23 жніўня 1939 г. За кіраўніцтва Германіі І.Рыбентроп. Паўнамоцны прадстаўнік кіраўніцтва СССР В. Молатаў."

**Запіс гутаркі фон Рыбентропа са Сталіным і Молатавым.** ***Дзяржаўная таямніца. 24.08.1939 г.***

"Абмяркоўваліся наступныя праблемы: 1. Японія. 2.Італія. 3.Турцыя. 4. Англія. 5.Францыя. 6.Антыкамінтэрнаўскі пакт. 7.Адносіны германскага народа да германа-рускага Пакта аб ненападзе. 8. Тосты. У ходзе гутаркі Сталін нечакана прапанаваў тост за Фюрэра: "Я ведаю, як моцна германская нацыя любіць свайго Правадыра і таму мне хочацца выпіць за яго здароўе". Спадар Молатаў выпіў за здароўе Імперскага Міністра замежных спраў і Пасла, графа фон Шуленбурга. ... Імперскі Міністр замежных спраў, у сваю чаргу, прапанаваў тост за спадара Сталіна... Пры развітанні Сталін звярнуўся да Імперскага Міністра замежных спраў з наступнымі словамі: "Савецкая кіраўніцтва адносіцца да новага Пакта вельмі сур'ёзна. Ён можа даць сваё чэснае слова, што Савецкі Саюз ніколі не прадасць свайго партнёра".

**Ліст Гітлера Мусаліні.**
*25 жніўня 1939 г.*

"... Пакт не абмежаваны ўмовамі і ўключае ў сябе таксама абавязак кансультавацца па ўсіх пытаннях, што кранаюць інтарэсы Расеі і Германіі. ... дзякуючы гэтым пагадненням гарантуюцца спрыяльныя адносіны Расіі на выпадак любога канфлікту і тое, што ўжо болей не існуе магчымасці ўдзелу ў падобным канфлікце Румыніі!"

*25 жніўня падпісана англа-польская дамова аб узаемадапамозе. Атрымаўшы звесткі аб заключэнні дамовы і аб рашэнні Італіі захаваць нейтралітэт у выпадку вайны Гітлер адмяніў прызначаны на наступную раніцу напад на Польшчу і перанёс яго на 31 жніўня, у крайнім выпадку на 1 верасня.*

***Газета "Правда" 1 верасня 1939 г.***

*Выступленне В.М. Молатава на пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, 31 жніўня 1939 г.* "Дамова аб ненападзе паміж СССР і Германіяй з'яўляецца паваротным пунктам у гісторыі Еўропы, ды і не толькі Еўропы. Учора яшчэ фашысты Германіі праводзілі ў адносінах СССР варожую нам знешнюю палітыку. Так, учора яшчэ ў вобласці знешніх адносін мы былі ворагамі. Сёння, аднак, абставіны змяніліся і мы перасталі быць ворагамі... Мы стаялі і стаім за сяброўства народаў СССР і Германіі, за развіццё і росквіт сяброўства паміж народамі Савецкага Саюза і германскім народам. *(Бурныя працяглыя апладысменты)*. Гэта дамова не толькі дае нам адхіленне пагрозы вайны з Германіяй, звужае поле магчымых ваенных сутыкненняў у Еўропе і служыць, такім чынам, справе агульнага міру...".

*У чацвер 1 верасня у 4.45 раніцы нямецкія войскі рушылі на Польшчу.*

*Пачалася другая сусветная вайна...*

***Матэрыял падрыхтаваў старшы навуковы супрацоўнік Лідскага краязнаўчага музея, кандыдат геаграфічных навук Валеры Сліўкін.***

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



№ 36(421) 8 ВЕРАСНЯ 1999 г. наша СЛОВА

АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ

# ІНТЭЛІГЕНТЫ

**Драма ў дзвюх дзеях**

**Менск – 1998**

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**ЯНКА.** Яшчэ раз гэтага *(глядзіць на партрэт)* пераверянеш і я …

**БАЗЫЛЬ.** Атрымаеш не менш пяці гадоў па ўказу за абразу…

**ЯНКА.** Гэта не бяда. Затое адразу займу Яго мейсца. Тутэйшыя любяць няшчасных. Паплачу, наабяцаю дзесяць бочак арыштантаў, у іх сківіцы, як у дуралеяў, і адвіснуць. Хіба не бачыш, колькі іх зараз ходзіць з адвіслымі сківіцамі пры пустых паліцах і пенсіях, якіх не хапае нават на лекі.

**БАЗЫЛЬ** *(прымае той гаворкі).* Нам толькі і не хапала пісакі на троне.

**ЯНКА.** А чаму б і не? У Амерыцы быў артыст, у чэхаў – драматург, у вас будзе паэт.

**БАЗЫЛЬ.** Не. Братка. Паэты і нават сыны паэтаў глядзяць на Захад, а нам трэба толькі на Усход.

**ЯНКА.** Ёлупы, калі вы ўжо здагадаецеся, што не толькі той свет, што ў акне?..

**БАЗЫЛЬ.** Няхай сабе. Хопіць нам таго, што ў акне.

**ЯНКА.** Ну, а калі я зраблю сабе трон-круцёлку і буду глядзець на ўсе бакі свету і яшчэ сабе пад ногі, каб не спатыкнуцца на шапку Манамаха ды нос не расквасіць?

**БАЗЫЛЬ.** Ты будзеш лупіць вочы на іншых і не аддасі нас пад руку старэйшага брата.

**ЯНКА.** Не толькі не аддам пад руку, але і з пад нагі, з пад бота яго вызвалю.

**БАЗЫЛЬ.** Я і кажу: не люб ты нам. Прападзем з табою канчаткова. Ад беспарапыннага, шматвяковага глядзення на Усход скрывіліся шыйныя пазванкі ў электарата. Не паглядзіць ён, не зможа паглядзець у твой бок. Пры тым занадта горды ты перад багатым братам. А нас Бог абдзяліў. Мы – няшчаснае племя на беднай зямлі. У нас ніколі нічога не было свайго. Мы заўсёды ў гэтым сеце былі нікім і нічым. Глухамань, цемра, захалусце, беднасць, нядатнасць, комплекс непаўнацэннасці. Можа і газеты маюць рацыю, што мы і нацыяй ніклі не былі, і мова наша – не мова, а так, дыялект ад сапсаванай рускай мовы. Як жа нам без рукі, без апекі, без абароны ад іншых жываглотаў?! Спрадвечны лёс…

**ЯНКА** *(перапыняе).* Спрадвечных халуёў! Цэлай нацыі халуёў!

**БАЗЫЛЬ.** Спрадвечны лёс малых народаў і тут ужо нічога не папішаш. А колькі іх ужо і моў і народаў знікла?.. Ну, знікне яшчэ адзін… І што дрэннага было ў тым, калі ў СССР знікалі нацыі на карысць вялікай супольнасці – савецкі народ. Ну, а цяпер будзе славянскі народ. Што мы, уласна, губляем, нічога не меўшы.

**ЯНКА.** Сапраўды. Некалі была Малая Русь, Белая Русь, і нават Чырвоная і Чорная, а цяпер будзе адна Вялікая Русь… Гэтакая саўковая Азіопія ад Брэста да Курыл… пад дву галовым выпрадкам, які даўно выклеваў нам вочы…

**БАЗЫЛЬ.** А я пра што?..

**ЯНКА.** Святы Божа, цяпер ты бачыш, што можа і што зрабіла з разумных людзей шматвяковая акупацыя-каланізацыя!

**БАЗЫЛЬ.** Толькі не трэба заломваць рукі. Мы, беларусы…

**ЯНКА** *(ускоквае з падлогі).* Беларусы-самазабойцы… Прабачэння няма нам, няма, Мы заўсёды жылі, як прапойцы, прапіваючы ўсё задарма… Ні Айчыны, ні роднага слова не змаглі для сябе захаваць. Адракліся ад матчынай мовы і паспелі чужынцамі стаць… Прасвісталі мы ўсё, праматалі: годнасць, гонар і славу дзядоў… Мы даўно існаваць перасталі. Нас няма. Мы - за цемрай вякоў…

**БАЗЫЛЬ** *(плёскае ў далоні).* Брава! Брава! Вось гэта недзе бліжэй да існасці. І як той казаў, не трэба рваць на поле валасоў. *(Налівае чарку).* Твае здароўе, паэт! Ты мяне зачапіў за самае жывое. Твае здароўе! *(Выпівае і ідзе да стала закусваць).*

**ЯНКА.** Які сорам! Які гнятлівы, горкі сорам чуць такое ад старога сябра, ад настаўніка, ад беларуса, нарэшце…

**БАЗЫЛЬ.** Ну, ведаеш, браток, ты мяне не вельмі сарамаці. Чыя большая віна ў тым, чым мы сталі і хто мы ёсць, яшчэ трэба паглядзець.

**ЯНКА.** Кінь мне *(падкрэслена)*, братка, інструмент…

**БАЗЫЛЬ.** Во гэта – дзела! *(падае гітару).* Мо кілішак возьмеш, а то закусь прападае.

**ЯНКА.** Не частуй, Васёк, а то пашкадуеш.

**БАЗЫЛЬ.** Ну тады глядзі… а я прылягу. Канцэрты дык канцэрты… *(Кладзецца на сяннік бліжэй да сцяны).*

**ЯНКА** *(бярэ акорд).* Мне сорамна… *(Яшчэ акорд.)* Мне сорамна… Мне сорамна за наша прыніжэнне. Нас б'юць пад дых, нас топчуць, нас – у гразь… Мы ж – рукі цалаваць, мы ж – на каленях… Мне сорамна за нас, мне сорамна за нас…Вякамі жыць чаканнем лепшай долі, няволіць мары звонам ланцугоў… Мне сорамна, мне сорамна да болю за рабскую ў нашых жылах кроў… Ці людзі мы? Ці мы іх толькі цені? Не знаю, ці настане гэткі час, калі нарэшце ўстанем з каленяў? Мне сорамна за нас… Мне сорамна за нас…

**БАЗЫЛЬ.** Правільная, шчырая песня. І паэт ты харошы. Павер, я ганаруся табой. Але ж, як той казаў, пей песні хоць трэсні, толькі есці не прасі…

**ЯНКА** *(адпівае з чаркі, устае з сянніка, вешае гітару над партрэтам, а партрэт пераварочвае тварам да сцяны).* Калі ты, гісторык, жыва пісаў лёс нашай Бацькаўшчыны – якая яна з прадвеку вякоў закінутая, забітая, бедная і цёмная, а нацыя наша такая недапечаная, то я падумаў: ці ты нічога ніколі не чытаў акрамя кароткага курса ВКП(б) і пабасенак Лаўрэнція Абацадарскага пра наш край, ці ты адпеты крывадушнік перада мною і подлы здраднік перад сваім народам.

**БАЗЫЛЬ** *(соння).* Асцярожна на паваротах – ты мяне ведаеш…

**ЯНКА.** Гэта ў горшым сэнсе. А ў лепшым – сам ты, Васіль Васільевіч, як мне падалося, і не дапечаны, і не дароблены. І лепш бы табе пакінуць тое міністэрства, займацца еўрарамонтам і не калечыць дзяцей.

**БАЗЫЛЬ** *(соння).* Зусім не выключна, што да канца прыёму я набіў бы табе морду, калі б не асноўная прычына майго запрашэння тваёй светласці. **(Адвярнуўся да сцяны).**

**ЯНКА.** Хіба ж табе, прафесійнаму гісторыку, да гэтага часу не вядома, што народ нашужо напачатку прайшоўшага тысячагоддзя засведчыў сябе ў пісьмёнах і паданнях мужным сэрцам і светлым розумам. Усяму ж свету вядома, што Полацкая дзяржава з поспехам супернічала з Руссю Кіеўскай яшчэ тады, калі не толькі Русі Вялікай, але і Масковіі ў паміне не было. А над Полатчынай, як над Кіеўшчынай і Наўгародчынай Сафія ўзнеслася сімвалам волі, мудрасці і майстэрства. Гэта да слова, хто каму старэйшы брат — маскавіты-нам, ці мы - расіянам.

**БАЗЫЛЬ** *(соння).* Ты мяне не даацэніваеш, даражэнькі. А я нават паспеў прачытаць пра гэта ў школьным падручніку па гісторыі Беларусі, які спачатку забаранілі, а потым на Заслаўскім папяровым млыне змалолі, у муку пытляваную.

**ЯНКА.** Пры Гітлеры ў Германіі кніжкі на плошчах палілі, у нас іх у пыл размолваюць. Але ж ад гэтага гісторыя ні германская, ні наша не мяняецца.

**БАЗЫЛЬ** *(пазяхаючы).* Гэта табе толькі так здаецца…

**ЯНКА.** Нічога мне не здаецца. Як зафіксавана ў пісьмёнах, так і да сёння годна і велічна паўстае перад людзьмі дасведчанымі наша Вялікае Беларуска-Літоўскае гаспадарства, што распасціралася ад мора Балтыйскага да мора Чорнага. Гэта і дало яму магчымасць засланіць сабою і Заходнюю Еўропу ад манголататарскай навалы з Поўдня, і прыняць на свае грудзі беспарапынныя ўдары крыжакоў з Захаду і ўратаваць тым самым Еўропу Усходнюю. А потым, сплываючы крывёю, прашчуры нашы амаль пяць стагоддзяў баранілі сябе і Захад ад беспарапыннай агрэсіі і разбою Маскоўскіх князёў, расійскіх цароў ды імператараў. Сёння ад школьнікаў, студэнтаў і грамадскасці халуі ад уладаў і навукі спрабуюць схаваць ісціну, што Беларуска-Літоўскае гаспадарства мела ўсе атрыбуты магутнай дзяржавы: акрэсленую тэрыторыю, органы ўлады і суды, фінансы, войска, сімвалы дзяржавы – Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, якім суджана было стаць гістарычнымі сімваламі беларусаў, дзяржаўную беларускую мову, на якой быў створаны Статут Гаспадарства, што ўяўляў сабой самую дасканалую канстытуцыю ў тагачаснай сярэдневяковай Еўропе.

*Чуваць храп Базыля.*

Дзяржаўная моц Гаспадарства дазволіла выставіць амаль палову палкоў у аб'яднанае войска пры разгроме крыжакоў пад Грунвальдам, а праз сто гадоў без малага разграміць пад Оршай агрэсара з Усходу.

*Раздаецца моцны храп Базыля. Янка спачатку губляецца, а потым падыходзіць да рампы.*

Ці ж мы такімі б сталі, як сёння, калі б край наш не перацярпаў у арэну беспарапынных войнаў і рабункаў. Войскі расійскага цара Аляксея Міхайлавіча "Тишайшего" за трынаццаць гадоў беспарапыннай агрэсіі не толькі выпалілі, вынішчылі і разрабавалі нашу Бацькаўшчыну, але і забілі кожнага другога яе жыхара. У вайну Пятра І з Карлам ХІІ загінуў кожны трэці наш суайчыннік, у вайну Аляксандра І з Напалеонам – кожны чацвёрты, у вайну Мікалая ІІ з Вільгельмам ІІ – кожны пяты. Апынуўшыся заложнікамі ў апошнюю Вялікую вайну на алтар Перамогі зноў было пакладзена кожнае трэцяе жыццё нашых суродзічаў. Мільён, а мо і болей за мільён бацькоў, дзядоў і прадзедаў прагліынулі расійскія "ГУЛагі" і свае бясконцыя "курапаты". Выбітымі аказаліся самыя здольныя, самыя здаровыя, самыя працавітыя і таленавітыя. Што ж тут здзіўляцца, якой стала і краіна, і нацыя, і мы самі. Стагоддзямі душыліся рэвалюцыі, вынішчаліся рэвалюцыянеры, разбураліся нашы замкі і палацы, выпальваліся хаціны, забаранялася наша мова і культура, вывозіліся нашы друкарні і тэатры, музеі і бібліятэкі, рабаваліся калекцыі і архівы. Сёння наша краіна і дзяржава валодае толькі адным адсоткам сваіх культурных скарбаў. І няма ў свеце нацыі, акрамя нацыі беларусаў, трэцяя частка якой жыла б за межамі сваёй Бацькаўшчыны.

*Зноў раздаецца храп.*

За вякі чужынцы як з Захаду, так і з Усходу столькі прапілі крыві і столькі высмакталі поту беларуса, што пра нейкі шчаслівы чалавечы лёс ён ужо і не марыць. У яго засталося толькі адзінае, хутчэй жывёльна-інстынктыўнае, чым усвядомленае жаданне: абы вайны не было; абы толькі застаца жыць; абы не знікнуць фізічна. А мы спім... Мы не хочам, не жадаем ведаць, на якой прычыне ператварыліся з годнага і гордага еўрапейскага народа ў расійска-савецкае быдла, якому спешна рыхтуецца пэўнае стойла.

Даруйце, што я пра ўсё гэта вам…

Настаўніцтва наша ці п'янае, ці запалоханае, ці нядатнае… *(Звяртаецца да неба.)* О, Божа, злітуйся над імі, дай памяць ім… Успомняць хай імя забытае Радзімы, імя сваё і родны край… Дай памяць ім, што ўсё забылі… О, Божа, злітуйся над імі… Успышкай гнеўнай бліскавіцы ім шлях у цемры асвятлі… О, Божа, злітуйся над імі, вярні ім памяць і любоў, вярні ім мову, каб нямымі не йшлі на споведзь, дзе грахоў адпушчана ім будзе многа… Малю цябе пад небам строгім – вярні ім памяці і любоў… О, Божа, літасцівым будзь. Цяжкі да ачышчэння пуць.. Дай ім увесь прайсці яго, не помні зла ім і даўгоў. Няхай свой крыж яны нясуць. Цяжкі да ачышчэння пуць… О, Божа, літасцівы будзь… Прабач ім чэрствасць і ману, прабач, О, Божа, іх віну, прабач цяжкія іх грахі, не дай жа ім спаліць страхі над новым днём сваёй Радзімы у непрытомнасці сваёй… Не дай ім захлынуцца ў дыме і смагу наталіць слязой… О, Божа, змілуйся над імі… *(Ідзе да Базыля, доўга стаіць над ім моўчкі, а той храпе.)*

**ГОЛАС ЯНКІ праз узмацняльнік.** Нахлусілі табе, мой народзе, наманілі… І верыш, відаць?.. І сядзіш, як дзядок на калодзе, і не можаш сякеру ўзняць… *(Злосна, абурана.)* Ну, і ладна, памірай, калі страх адужаў сон… Толькі ляжа, так і знай, на тваё чало праклён… *(Безнадзейна).* Хай збягаюцца ваўкі… Хай спаўзаюцца вужы… Хай злятаюцца крумкачы… *(Нечакана ў нахлынуўшым гневе пераварочвае стол. Усё ляціць на падлогу).*

*Базыль садзіцца на сянніку. Сцэна зацямняецца.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Сцэна асвятляецца.

*Базыль моўчкі поўзае па падлозе – збірае закусь на недабітыя талеркі. Янка вінавата назірае за ім.*

**БАЗЫЛЬ** *(спакойна выгаворвае Янку).* Псіх няўрымслівы… Загубіць такую закусь… Цяпер скуллі з'есі, як казала некалі мая бабуля… Не стой ёлупнем, а сабяры садавіну-агародніну. Бач, раскаціліся бы тыя шары більярдныя…

*Янка падпарадкоўваецца і збірае яблыкі, грушы, памідоры ў плеценую вазу*

І не журыся. Тое-сёе яшчэ ўратуем. Перад тваім прыходам я падлогу вымыў, а натаптаць мы яшчэ не паспелі… Добра, што я каньячок са стала прыбраў да тваёй дурной выхадкі.

**ЯНКА** *(вінавата, як школьнік).* Даруй…

**БАЗЫЛЬ** *(дражніць).* Даруй… Вядома, дарую. Які з дурня спрос. Калі па праўдзе, я і сам на тваім месцы шандарахнуў бы нечым, хоць па натуры я не такі захвіцоны, як ты… *(сервіруе тое, што засталося.)* Барацьбіт за ідэю, адраджэнец-дэмакрат кіпяцішча-распінаецца, а я сабе сплю, бы пянькy прадаўшы, ды яшчэ даю храпавіцкага з прысвістам. *(Паўза.)* Ты думаеш, што я спаў? .. Памыляешся. Я толькі крыху засяродзіўся, але ўсё чуў. Паглядзець хацеў на паэта-барацьбіта ў разрэзе. На якой такой платформе сам стаіць і каго ва ўсіх смяротных грахах абвінавачвае творчы інтэлігент у першым пакаленні…

**ЯНКА.** Як кажа твой праваднр, ты мяне "отслеживал"?

**БАЗЫЛЬ.** Я не збіраюся на цябе даносіць.

**ЯНКА.** І на гэтым дзякуй… А то я даўно ўжо ў іх бяльмом на воку. Пара садзіць, ды турмы біткам набітыя, а на расійскія "ГУЛагі" яшчэ дамова не падпісана.

**БАЗЫЛЬ** *(глядзіць на фотаздымак жонкі).* Яна мне неяк пра гэта казала… Яна многа чаго добрага пра цябе казала. Думаецца мне, душа яе парадуецца, што я цябе запрасіў… Можа і мне за гэта нешта даруецца… Памінкі ў нас сёння, Янка. Сарачыны… Не ведаю, хто з нас яе больш любіў, а памянем разам…

**ЯНКА.** Даруй! Даруй мне, Базыль… Сорамна і перад Ёй, і перад табой…

**БАЗЫЛЬ.** Табе ўжо Бог дараваў. Ты не блага з ім пагаварыў. *(Налівае тры чаркі. Адну накрывае кавалачкам хлеба).*

**ЯНКА** *(таропка).* Пачакай, я стол падніму.

**БАЗЫЛЬ.** Не! Тут! На каленях перад Ёй… І няхай ён спрахне, гэты кляты стол…

**ЯНКА.** Прабач. Не падумаў… *(Апускаецца на калені, бярэ з рук Базыля чарку).*

*(Працяг у наступным нумары).*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

